**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 50 (766) 11 снежня 2014 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае



Глыбоцкаму Дому рамёстваў – 25 гадоў!



*Фота Ул. Скрабатуна.*



**Падача абвестак па тэлефоне № 166**

**Гарадоцкі раён**

# Так і не прыжыўся Тарас

■ Станіслаў Раманчук.

**Рэкордны ўраджай збожжа аб'ёмам 1,3 млн. тон, атрыманы сёлета на Віцебшчыне, так і не дапамог вырашыць праблемы АПК і напаўнення мясцовых бюджэтаў.**

Цяпер, як аказваецца, грошай не хапала поўнасцю і на правядзенне з размахам ў Гарадку абласнога свята-кірмашу працаўнікоў вёскі “Дажынкі-2014”. Там напрыканцы восені ў цэнтры горада са сквера насупраць мясцовага Дома рамёстваў прыбралі прыгожую скульптурную кампазіцыю “Тарас на Парнасе”. Нагадаем, што помнік у выглядзе адкрытай кнігі ў гонар знакамітага земляка Канстанціна Вераніцына, аўтара паэмы пра народнага героя быў адкрыты побач з Горадам майстроў і многім спадабаўся. Аднак цяпер мясцовыя жыхары ў роспачы, бо страцілі нешта важнае і ўзнёслае, што адрознівала Гарадок ад іншых мястэчак. Як аказалася, прадпрыемства “Ліцейны двор” вырашыла скульптуру забраць назад, калі пераканалася, што мясцовыя ўлады не збіраюцца за яго плаціць. Аднак спачатку першыя асобы абяцалі ліцэйшчыкам, што з аплатай заказу не будзе ніякіх праблем. Было заключана пагадненне з мясцовым упраўленнем капітальнага будаўніцтва, што яно аплоціць заказ на выраб помніка коштам 1 млрд. 186 млн. рублёў. Праўда, далей абяцанняў справы не пайшлі, тры разы прадаўжалі тэрміны разлікаў. Перазаключылі дамову на далейшае бязвыплатнае выкарастанне манумента, а затым райвыканкам папрасіў кампазіцыю забраць назад. У суд “Ліцейны двор” падаваць не збіраецца, бо спадзяецца, што ў Гарадку адумаюцца і набудуць усё ж гэты помнік.

**Пастаўскі раён**

# Ні заказаў, ні зарплаты

■ Кастусь Александровіч

**Напрыканцы года сітуацыя на многіх айчынных прадпрыемствах рэзка пагоршылася і настрой там у працаўнікоў адпаведны.** Не пазбегнуў гэтых праблем і буйны прамысловы Пастаўскі раён. У няпростым становішчы апынулася вядучая дрэваапрацоўчая галіна, а Варапаеўскі дрэваапрацоўчы камбінат, які стаў прастойваць з сярэдзіны лета, не змог своечасова выплаціць людзям зарплату за кастрычнік. З-за “прасеўшых” рынкаў збыту найперш у Расіі падзенне аб'ёмаў вытворчасці ў лістападзе на мясцовым ПМЦ перавысіла 5 млрд. рублёў, там пачаліся скарачэнні персаналу. У такім жа становішчы знаходзіцца і другі ў горадзе прыватны вытворча-мэблевы цэнтр. Пасля некаторага ажыўлення прадаж летам зноў сталі расці непрададзеныя складскія запасы гатовай прадукцыі і на мясцовым прадпрыемстве “Паставымэбля”. Шмат праблем з заказамі і ў Варапаеўскага завода жалезабетонных вырабаў, дзе сарваліся задумы зарабіць на расійскіх прасторах. Пакуль актыўна адгружае свае сыры спажыўцам у Расію Пастаўскі малочны завод, але з-за абвалу расійскай нацвалюты такая дзейнасць амаль што стратная, а прадпрыемства працягвае дзейнічаць толькі дзякуючы вялізным аб'ёмам адгрузкі. У няпростым фінансавым становішчы знаходзіцца і мясцовы льнозавод. Толькі адзін рыбгас “Навінкі” адчувае сябе ўпэўнена, вырасціў шмат рыбы і паспяхова яе рэалізуе беларускім спажыўцам. Таксама лічаныя гаспадаркі краю знаходзяцца зімой на плыву, не маюць праблем са сродкамі.

**Докшыцкі раён**

# Сам сябе пакараў

■ Чэслаў Якубовіч.

**Апошнім часам легкавых аўтамабіляў і іншых транспартных сродкаў у насельніцтва істотна павялічылася, расце штогод і колькасць жадаючых атрымаць вадзіцельскія правы.**

Вось і малады 26-гадовы хлопец з Докшыц яшчэ ў мінулым годзе закончыў курс навучання ў аўташколе, хацеў стаць сапраўдным кіроўцам. Аднак далей чамусьці ў яго не атрымоўвалася ажыццявіць сваю мару. Некалькі разоў у гараджаніна не ўдавалася правільна здаць тэарэтычны экзамен па правілах дарожнага руху. Калі з гэтым справіўся, то практычны экзамен па ваджэнні аўтамабіля заваліў. Прыйшлося яму зноў рыхтавацца і нарэшце сёлета летам застаўся апошні рашаючы крок пасля перздачы тэарэтычных выпрабаванняў. Па існуючых правілах такое дазваляецца на працягу цэлага квартала, калі з тэорыяй няма праблем. Вось толькі гараджанін не адчуваў, што навучыўся нядрэнна ездзіць і нават забаяўся сесці за руль аўто. Жыхар райцэнтра вырашыў пайсці сваім шляхам і не ехаць на аўтапалігон. Замест гэтага мужчына пастараўся падрабіць подпіс супрацоўніка Дзяржаўтаінспекцыі і запоўніў за яго экзаменацыйную картку. Сёлета восенню прыбыў у Глыбоцкае МРЭА ДАІ, дзе адзін з яго супрацоўнікаў і выявіў гэту афёру. Справа ў выніку была перададзена ў суд Глыбоцкага раёна, дзе махляру прыйшлося зноў развітацца са сваёй марай. Ён яшчэ лёгка адбіўся, бо па прыгавору павінен не толькі выплаціць за падробку дакументаў штраф у памеры 7,5 млн. рублёў, але і 100 гадзін адпрацаваць на грамадскіх работах.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 11.12.14 | | | | Пятніца 12.12.14 | | | | Субота 13.12.14 | | | | Нядзеля 14.12.14 | | | | Пн.15.12. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -5 | -5 | -4 | -4 | -3 | -3 | -2 | -2 | -1 | -1 | 0 | -1 | -1 | -1 | 0 | -1 | -2 | -2 | -1 |
| Ціск | 749 | 747 | 746 | 744 | 742 | 740 | 741 | 741 | 737 | 735 | 737 | 742 | 744 | 747 | 750 | 753 | 755 | 754 | 752 |
| Вільготнасць | 88 | 93 | 91 | 95 | 95 | 92 | 90 | 91 | 94 | 94 | 91 | 93 | 95 | 94 | 92 | 91 | 90 | 89 | 91 |
| Вецер м/сек | 4 Пл | 2 Пл-У | 3 Пл | 3 Пл | 3 Пл-З | 3 Пл-З | 4 Пл-З | 5 Пл | 9 Пл | 7 Пл-З | 7 Пл-З | 4 Пл-З | 4 Пл-З | 3 Пл-З | 3 Пл-З | 3 Пл-З | 3 Пл-З | 2 Пл-З | 3 Пл |

# Аб самым надзённым

## У БЕЛАРУСІ ХОПІЦЬ СРОДКАЎ ПРАЖЫЦЬ 2015 ГОД БЕЗ УЗРУШЭННЯЎ, А ВОСЬ ШТО БУДЗЕ ДАЛЕЙ?

■ Аляксандр Цішкевіч.

**Аднак у цэлым у наступаючым 2015 годзе, па меркаванні большасці беларускіх даследчыкаў і эканамістаў, у Беларусі хопіць сродкаў, каб пражыць перадвыбарны год без асаблівых узрушэнняў і крызісаў. Праўда, раскошна жыць, як раней, мы таксама не станем**

За некалькі тыдняў да самых светлых, радасных калядных і навагодніх святаў большасць беларусаў яшчэ раз пераканаліся, што суседняя Расія працягвае “выпендрывацца”, як трапна заўважыў у сярэдзіне восені А. Лукашэнка. Беларускага лідара з гэтай нагоды можна зразумець. Нядаўна ён прымаў у сваёй рэзідэнцыі главу расійскага МЗС С. Лаўрова і публічна хваліўся, што ва ўзаемаадносінах дзвюх краін няма цяпер ніякіх праблем.

Аднак не прайшло пасля гэтага і двух тыдняў, як на расійскіх прасторах раптам засумняваліся ў якасці і надзейнасці беларускага харчавання, практычна забаранілі транзіт усёй нашай прадукцыі да яшчэ аднаго нашага саюзніка, у Казахстан. Абурэнне кіраўніка нашай дзяржавы з нагоды аб'яўленай нам “харчовай вайны” было рэзкім, але справядлівым: “мы не щенки, чтобы нас за шиворот водить”. Дарэчы, за апошніх паўгода нашы вытворцы мяса і малака на добраахвотнай аснове завезлі і праверылі ў акрэдытаваных ветэрынарных расійскіх лабараторыях амаль 21 тысячу найменняў прадукцыі. І толькі на 11 проб з іх у расіян былі абгрунтаваныя прэтэнзіі да якасці прадукцыі. Між тым і Казахстан адверг неабгрунтаваныя прэтэнзіі расійскіх ветслужб.

З іншага боку, а маскоўскі палкоўнік Пуцін, без якога, як сцвярджаюць ягоныя лісціўцы з Дзяржадумы, не стане самой Расіі, хіба дагэтуль з намі ды і з тымі ж казахамі асабліва лічыўся? Усё Крэмль робіць, што захоча. Тое ж сумна вядомае эмбарга на імпарт заходняй ежы Масква не павінна была ўводзіць у аднаасобным парадку, выходзячы з рамак падпісаных раней дамоўленасцей аб Мытным саюзе. На жаль, на расійскіх прасторах закон, што дышла, там асабліва са сваім народам і цары не лічыліся. А ў выніку сёлета ў дадатак да ранейшых праблем у пачатку зімы рубль РФ зноў прадоўжыў сваё рэкорднае падзенне.

Не трэба быць вялікім эканамістам, каб усвядоміць, што на фоне падзення сусветных цэн на нафту Расія ўступіла ў перыяд рэцэсіі сваёй эканомікі. У расіян пачаўся вельмі востры крызіс, бадай, самы сур'ёзны з моманту распаду СССР. Той жа расійскі Цэнтрабанк непакоіць рэзкі ўсплеск цэн. Вельмі балюча гэтыя працэсы адаб'юцца і на нашай краіне, паколькі найперш многія беларускія вытворцы, цалкам арыентаваныя на пастаўкі прадукцыі на яе рынак. Зараз з 1 снежня Беларусь вымушана была знізіць экспартныя пошліны на нафту і нафтапрадукты, вывозімыя за межы тэрыторыі Мытнага саюза. Не забывайце, што 30-40 % нашых асноўных даходаў у дзяржбюджэт і прыток валюты даюць менавіта такія пастаўкі.

Аднак у цэлым у наступаючым 2015 годзе, па меркаванні большасці беларускіх даследчыкаў і эканамістаў, у Беларусі хопіць сродкаў, каб пражыць перадвыбарны год без асаблівых узрушэнняў і крызісаў. Не варта разлічваць, што будуць, як у мінулым, папулісцкія падвышэнні заробкаў і пенсій (улада зразумела свае такія пралікі). Да таго ж за вынік прэзідэнцкіх выбараў правячай камандзе асабліва не варта хвалявацца. Для беларусаў заўсёды было важна, каб у нас было ўсё ціха і спакойна і не было вайны. Баявыя ж дзеянні ідуць зусім блізка, на ўсходзе Украіны і гэты фактар аб'ектыўна дапамагае беларускаму кіраўніцтву.

Праўда, раскошна жыць, як раней, мы таксама не станем, тут бы цяперашні ўзровень жыцця пастарацца захаваць, бо адчувальна пагоршыўся фінансавы стан многіх прадпрыемстваў і ці не паловы гаспадарак у сельскай мясцовасці. Беларуская індустрыя таксама перажывае перыяд стагнацыі і ўшчыльную падышла да фазы рэцэсіі. У нас эканамічны рост таксама практычна замарозіўся, вельмі невялікі. І ў наступаючым новым годзе ўлады Беларусі прадоўжаць досыць жорсткую макраэканамічную палітыку, паступовае аслабленне нацвалюты, якая зараз фактычна пераацэнена дзесьці на 25 %.

У адрозненне ад мінулых гадоў, напрыканцы восені кантракт з Расіяй на пастаўкі газу і транзіт яго па нашай тэрыторыі быў у “вельмі высокай ступені гатоўнасці, што хоць гэта парадавала. Адзін з расійскіх звышбагацеяў В. Вексельберг таксама мае планы ўкласці сродкі ў мадэрнізацыю сталічнай і Гродзенскай цеплаэнергацэнтраляў. Крэмль пагадзіўся з тым, каб наша краіна да 2025 года пакідала сабе ў дзяржбюджэт да 1,5 млрд. долараў штогод. А пакуль на таргах у Мінску расійскі рубель рэкордна абваліўся. У такіх умовах тыя беларусы, хто жыве паблізу расійскай граніцы, сталі карыстацца сітуацыяй, закупляць расійскую валюту. Стала выгадна ездзіць да суседзяў закупляць пад завязку бакаў расійскі больш танны бензін, легкавыя машыны, іншыя бытавыя тавары.

Дарэчы, такога імклівага і рэзкага абвалу рубля на прасторах Расіі не назіралася 16 гадоў. Нашым суседзям у бліжэйшы час прыйдзецца зацягнуць паясы, перажыць далейшы рост цэн, а ад аднаго свайго амбіцыйнага праекта, газапровада “Паўднёвы паток” Крэмль быў вымушаны адмовіцца канчаткова. Ужо летам наступнага года курс долара можа дасягнуць узроўню 60 рублёў РФ, а еўра – нават 70-75 руб. У такіх умовах будуць падставы і для беларусаў хвалявацца за ўстойлівасць і надзейнасць айчыннай грашова-фінансавай сістэмы, нам таксама прыйдзецца больш эканоміць і жыць па сродках.

## Дзень за днём

**Расія забараніла ўвоз амаль усяго мяса з Беларусі, хоць мы кормім 7 мільёнаў рускіх. Еўразійскі саюз зноў трашчыць па швах і можа памерці, так і не нарадзіўшыся. З-за зніжэння рэальных зарплат і пенсій беларусы ў кастрычніку найменей купілі тавараў за апошнія гады, але сталі масава скупляць аслабеўшы рускі рубель. Новыя правілы водпуску лекаў па рэцэптах балюча ўдарылі па моцна хворых, будуць праблемы і ў перыяд эпідэмій. З надыходам каляндарнай зімы падаражэлі асобныя віды цыгарэт. Падчас навагодніх распрадаж цэны ў крамах знізілі на 18 %.**

# Важнейшыя навіны свету

**Францыя.** Неабходных умоў для передачы верталётаносца "Містраль", як заявіў глава МЗС Ларан Фабіус, Расія не выканала, дастаткова паглядзець, што яна робіць у Данбасе.

**Расія.** Расійская эканоміка, як прызнаў міністр фінансаў РФ Антон Сілуанаў, ад уведзеных санкцый і падзення цэн на нафту штогод будзе губляць мінімум 140 мільярдаў долараў.

**Германія.** Канцлер А. Меркель заявіла аб неабходнасці ўвядзення новых жорсткіх санкцый супраць Расіі, Масква прадаўжае распальваць напружанасць на ўсходзе Украіны.

**Іран.** Пасля правалу перамоў па іранскай ядзернай праграме ў Вене краіну чакаюць новыя эканамічныя цяжкасці, рост цэн перавысіў 20 %, яшчэ больш падаражэла харчаванне.

**Украіна.** Украінскі народ, як заявіў прэзідэнт Пётр Парашэнка, сам вырашыць без чыёй-небудзь падказкі на рэферэндуме пытанне магчымага членства краіны ў НАТА.

**Літва.** У МЗС краіны выклікалі пасла Расіі і ўручылі ноту пратэсту за стварэнне штучных чэрг на граніцы для літоўскага транспарту і за вельмі доўгія працэдуры праверак.

**Грузія.** Дзяржддэпартамент ЗША не прызнаў так званы дагавор паміж Расіяй і анексаванай ёй Абхазіяй, але ўрад краіны чакае больш жорсткай рэакцыі з Вашынгтона і з Брусселя.

**Расія.** У выніку санкцый і падзення цэн на нафту, як заявілі аналітыкі Цэнтра развіцця НДУ ВШЭ, заробкі расіян упалі і часта зусім перасталі выдавацца, расце беднасць.

**Казахстан.** Вядомы расійскі музыкант Андрэй Макарэвіч заявіў у Алматы, што танкамі Пуцін славянскі мір не пабудуе, толькі славянскую вайну, але гэта тупіковы шлях.

**Расія.** Пакуль РФ яшчэ весела быць краінай-ізгоем, як папярэдзіў банкір С. Рабіновіч, але праз год яе чакае поўны эканамічны калапс, магутны сацыяльны выбух і мора крыві.

**Афганістан.** Мужная афганка застрэліла 25 баевікоў ісламскага руху "Талібан", каб адпомсціць за забойства свайго сына, які служыў у атрадзе паліцыі.

**Мадагаскар.** Эпідэмія бубоннай чумы дасягнула і сталіцы краіны, ад небяспечнай хваробы ўжо памерла 47 чалавек, яшчэ 138 пацыентаў знаходзіліся ў цяжкім стане.

**Карэя.** Спецыялісты кампаніі Samsung распрацавалі ўнікальную камп'ютарную мыш для інвалідаў, яна дапамагае выконваць розныя функцыі, друкаваць тэксты за кошт руху вачэй

**ЗША.** Кампанія Coca Cola пачала выпуск і свайго дарагога малака пад назвай Fairlife без лактозы і з павышаным на 50 % утрыманнем пратэіну, чым у звычайным малацэ ў крамах.

**Японія.** Фірма Shimizu аб'явіла, што за 5 гадоў пабудуе падводны горад даўжынёй 15 кіламетраў для правядзення даследвання спосабаў здабычы энергарэсурсаў з марскога дна.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Беларусы пакладуць зубы на паліцы, як заявіў вядомы эканаміст Л. Злотнікаў, калі Крэмль не дасць нам новых крэдытаў, страты эканомікі гіганцкія з-за сітуацыі ў РФ.

**Фаніпаль.** Расійская фірма "Аэраэкспрэс" не можа аплаціць 380 млн. еўра за пастаўленыя 25 новых двухпавярховых вагонаў, выраблены на мясцовым заводзе "Stadler-Minsk".

**Мінск.** Каб падтрымаць айчынных вытворцаў, як прапанаваў намеснік главы Мінфіна Беларусі М. Ермаловіч, неабходна хутчэйшая дэвальвацыя беларускага рубля.

**Салігорск.** "Беларуськалій" праз БКК рэзка павялічыў адгрузкі больш таннага калію ў Кітай і перашкодзіў заключыць зручны кантракт з кітайцамі канкурэнту – "Уралкалію".

**Гродна.** У суд паступіла трэцяя за год адміністрацыйная справа супраць мясцовага журналіста Андрэя Мялешка за супрацоўніцтва з сайтам польскага "Радыё Рацыя".

**Мінск.** Услед за праблемным канкурэнтам КАМАЗам у пяцёрку самых стратных прадпрыемстваў краіны ўвайшоў МАЗ, доля яго прадаж у РФ скарацілася да 10,1 %.

**Дзяржынск.** Беларускія лабараторыі, як заявіў начальнік упраўлення Мінсельгасхарча РБ А. Багданаў, не знайшлі ў прадукцыі мясцовага агракамбіната ніякага "дрэннага мяса".

**Мінск.** Адразу пасля 60-гадовага юбілею генерал-лейтэнанта Ю. Жадобіна А. Лукашэнка адправіў яго ў адстаўку з пасады міністра абароны Беларусі, на якой ён служыў 5 гадоў.

**Чавусы.** Суд раёна пакараў 5 гадамі турмы з канфіскацыяй маёмасці за перавышэнні службовых паўнамоцтваў былога намесніка старшыні Быхаўскага райвыканкама.

**Брэст.** Услед за выдачай 2-гадовых турыстычных віз Польшча вырашыла выдаваць візы тут і ў Гродне ўсім жыхарам Беларусі, каб разгрузіць сваё консульства ў Мінску.

**Гомель.** Толькі штрафам у памеры 7,5 млн. рублёў суд раёна пакараў п'янага 28-гадовага слесара ААТ "Парэчча-Арэса" за стральбу па трактары з пнеўматычнага пісталета.

**Магілёў.** На канцэрце скандальны расійскі акцёр і праваслаўны святар Іван Ахлабысцін абазваў А. Лукашэнку "колхозником", заклікаў хутчэй увесці войскі РФ ва Украіну.

**Мінск.** Функцыянеры расійскай лігі КХЛ забаранілі выкарыстоўваць беларускую мову падчас прэс-канферэнцый пасля заканчэння матчаў сталічнага хакейнага "Дынама".

**Петрыкаў.** Падчас п'янай спрэчкі на беразе ракі Прыпяць 27-гадовы жыхар вёскі Макарычы зарэзаў нажом 41-гадовую знаёмую шматдзетную маці траіх дзяцей.

**Мінск.** У бліжэйшы час беларускі спорт, як заявіў журналіст "Прэссбола" Андрэй Вашкевіч, развaліцца без бюджэтнай падтрымкі, адсутнасці ўмоў для свайго развіцця.

## У Беларусі ўводзіцца новая дапамога сем'ям з двума і больш дзецьмі



■ Таццяна Паляжай, БЕЛТА

**У Беларусі ўводзіцца новае штомесячная дапамога сем'ям з двума і больш дзецьмі. Гэты від дзяржпадтрымкі запланаваны праектам указа, якія абмяркоўваліся сёння на сустрэчы Прэзідэнта Беларусі з міністрам працы і сацыяльнай абароны насельніцтва Мар'янай Шчоткінай, перадае карэспандэнт БЕЛТА.**

У прыватнасці, прадугледжваецца, што сем'ям, якія выхоўваюць непаўналетніх дзяцей, будзе прадастаўляцца штомесячная дапамога ў памеры 50% найбольшай велічыні бюджэту пражытачнага мінімуму ў сярэднім на душу насельніцтва, зацверджанага Мінпрацы і сацабароны, за два апошнія кварталы. Права на дапамогу будуць мець маці або бацька (усынавіцеляў, апякун), якія выхоўваюць адначасова дзяцей ва ўзросце да трох гадоў і ад трох да 18 гадоў і якія маюць права на дапамогу па догляду за дзіцем да трох гадоў.

Пры назначэнні дапамогі не будуць улічваца дзеці, якія знаходзяцца ў дзіцячым інтэрнатнай установе, а таксама ўстанове адукацыі з кругласутачным рэжымам знаходжання. Акрамя таго, не будуць мець права на гэты від дзяржпадтрымкі бацькі, пазбаўленыя бацькоўскіх правоў, чые дзеці знаходзяцца на дзяржзабеспячэнні.

Як адзначыла Мар'яна Шчоткіна, на бягучую падтрымку сем'яў спатрэбіцца Br1,6 трлн, гэтыя сродкі ўжо запланаваныя ў рэспубліканскім бюджэце на 2015 год.

## Судовых выканаўцаў надзеляць правам уносіць даўжнікоў у спісы невыязных

■ БЕЛТА

**У Беларусі судовых выканаўцаў плануецца надзяліць новымі паўнамоцтвамі, якія, у прыватнасці, будуць тычыцца часовага абмежавання на выезд з краіны, паведаміў міністр юстыцыі Алег Сліжэўскі падчас онлайн-канферэнцыі на сайце БЕЛТА.**

"Судовым выканаўцам плануецца перадаць паўнамоцтвы па часовым абмежаванні права грамадзяніна, які з'яўляецца даўжніком па выканаўчай вытворчасці, на выезд з Рэспублікі Беларусь, часовым абмежаванні права грамадзяніна, які з'яўляецца даўжніком, на кіраванне механічным транспартнымі сродкамі, на паляванне", - растлумачыў міністр.

Гэтыя і іншыя новаўвядзенні прадугледжаны ў падрыхтаваных Мінюстам законапраектах "Аб судовых выканаўцах" і "Аб выканаўчай вытворчасці". Судовым выканаўцам прапануецца даць права выносіць пастанову аб затрыманні і прымусовай адбуксіроўцы (эвакуацыі) транспартнага сродку даўжніка, які падлягае арышту, на ахоўную стаянку. Таксама плануецца, што выканаўцы змогуць атрымліваць звесткі (дакументы) па ажыццяўленні натарыяльных дзеянняў, аглядаць і абследаваць тэрыторыю, мэблю, сейфы і іншыя магчымыя месцы захоўвання маёмасці і грошай і г.д.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Па надуманых прычынах Рассельгаснагляд забараніў увоз прадукцыі мясцовага мясакамбіната і Віцебскай бройлернай фабрыкі з-за нібыта дрэннай якасці іх мяса.

**Бешанковічы.** Ураджэнца вёскі Равякі, 47-гадовага генерал-маёра Андрэя Раўкова прызначылі міністрам абароны Беларусі, раней сілавымі органамі кіравалі не беларусы.

**Полацк.** Услед за бясплатнымі крызіснымі пакоямі ў раёне стварылі і першы ў вобласці пакой для сямейных агрэсараў і дэбашыраў, куды іх будуць прымусова часова змяшчаць.

**Глыбокае.** Малако Глыбоцкага МКК тлустасцю 3,2 % у прэстыжным конкурсе "Чэмпіён густу" падчас XX Міжнароднай выставы "Прадэкспа-2014" завявала першае месца.

**Верхнядзвінск.** З улікам назапашаных 3600 тон трасты мясцовы льнозавод перайшоў на 3-х зменны рэжым працы, яго ўключылі ў план мадэрнізацыі і пераснашчэння галіны.

**Лепель.** Раніцай у вёсцы Баброва пільны сусед заўважыў пажар у адной з хат пасля выпіўкі з гасцямі і выратаваў ад гібелі 6 чалавек, з іх дзяцей ва ўзросце 2, 5 і 12 гадоў.

**Бягомль.** На мясцовым заводзе "Ветразь", філіяле Магілёўскага завода ліфтовага машынабудавання пачалі ствараць новы ўчастак па вырабу самарэзаў.

**Віцебск.** Часопіс "Руская планета" ўзяў інтэрв'ю ў мясцовага лідара кампаніі "Наш дом" Вольгі Карач і назваў яе "зменшчыцай" А. Лукашэнкі на пасадзе прэзідэнта Беларусі.

**Ушачы.** У раённым цэнтры ўрачыста адкрылі новы сучасны Дом правасуддзя, акрамя суда раёна ў будынку коштам 20 мільярдаў рублёў размясцілі натарыяльную кантору, адвакатаў.

**Паставы.** З пачатку года супрацоўнікі ДАІ затрымалі ў раёне 121 п'янага вадзіцеля, з іх11 - паўторна, яны пазбаўвяцца аўто, аштрафавалі 885 кіроўцаў за перавышэнне хуткасці.

**Дубровна.** Падчас раскопак боепрыпасаў часоў Вялікай Айчыннай вайны на тэрыторыі раёна падарваўся на міне і загінуў 32-гадовы мужчына, "чорны капальнік" зброі.

**Віцебск.** Музычны рэдактар дзяржрадыёстанцыі "Віцебск" Д. Пацехіна публічна заявіла, што песні на беларускай мове яны ў эфір не ставяць быццам з-за іх "нефармату".

**Орша.** Падчас традыцыйнага Тыдня памяці У. Караткевіча для пасажыраў гарадскіх аўтобусаў гучалі лепшыя вершы і песні земляка, класіка беларускай літаратуры.

**Полацк.** Вучоныя і краязнаўцы адшукалі месца ў горадзе, дзе ў 1916 годзе знаходзіўся дом, у якім каля года пражыў Янка Купала падчас службы ў чыгуначным атрадзе.

**Віцебск.** Калектыў Нацыяльнай бібліятэкі Беларусі перадаў у дар сваім калегам з абласной бібліятэкі факсімільнае выданне рукапіснага Тураўскага Евангелля XI стагоддзя.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# У Востраве адшуканая магіла Тарквінія Буйніцкага

## Тарквіній Буйніцкі – бацька Ігната Буйніцкага, заснавальніка беларускага прафесійнага тэатра.

■ **Уладзімір Скрабатун,** *фота Ігара Кужалава.*

**27 жніўня 2013 года група даследчыкаў у складзе Алега Куржалава, Ігара Куржалава і Вольгі Гінько здзейснілі навуковую экспедыцыю ў вёску Востраў (Вострава), у выніку якой на вясковых могілках быў знойдзены вялікі каменны крыж. Гэта і была магіла бацькі Ігнація Буйніцкага Тарквінія. 25 верасня Алег і Ігар Куржалавы зноў пабывалі ў Востраве з мэтай абмераў і фотафіксацыі гэтай важнай знаходкі.**

Помнік уяўляе сабой каменны крыж на пастаменце. Агульная вышыня помніка 3.3 м, памеры базы — 1.3 м х 1 м. Помнік высечаны з граніту. Арыентацыя фасаду — на поўдневы захад. Ніякіх прыкмет добраўпарадкавання вакол помніка на тэрыторыі цвінтара не выяўлена. Нейкія вандалы ў мінулым годзе спрабавалі раскапаць магілу — перад крыжам бачна яма, засыпаная лісцем. Помнік патрабуе намаганняў па добраўпарадкаванні і ахове.



**Сядзібны дом Буйніцкіх у Востраве (не захаваўся). Дваравы і галоўны фасады.** *Рэканструкцыя сядзібнага дома Буйніцкіх у маёнтку Востраў, зроблена са слоў Францішка Тамашэвіча Бузо. Аўтар Куржалаў І.В.*

Для тых, хто цікавіцца гісторыяй шляхецкага роду Буйніцкіх, а таксама дзейнасцю Ігната Буйніцкага, заснавальніка прафесійнага беларускага тэатра, рэкамендуем адпаведны сайт: *http://bujnicki.hol.es/*

З прыходам вясны 2015 года група глыбоцкіх краязнаўцаў і журналістаў плануе наведаць могілкі ў вёсцы Вострава, меркавана, будзе праведзена талака (суботнік) па добраўпарадкаванні магілы Тарквінія Буйніцкага.






**Уверсе – надмагільны помнік Тарквінію Буйніцкаму на могілках у Востраве, справа – надпіс на помніку.**

Меркавана, помнік пастаўлены другой жонкай Тарквінія – Верай. Сама Вера была пахаваная тут праз 24 гады пасля смерці мужа. Верхні надпіс (s.+p. TARKWINI BUJNICKI zm. w. 1896 r.) зроблены адразу пры вырабе помніка, ніжні (WIERA z Jańkowych BUJNICKA zm. 1920 r.) ужо пасля смерці Веры, наўпрост на помніку. На гэта ўказваюць касякі ў літарах і якасць выканання надпісу.

А вось дзе пахавана першая жонка Тарквінія — Клатыльда з Гласкаў, маці Ігнація Буйніцкага, пакуль што невядома. Існуе версія, што яна памерла досыць рана.

# Дзісна: Горад, якога ўжо няма

■ **Уладзімір Скрабатун**

У Дзісне быў я толькі аднойчы, гадоў пяць таму, і ўсяго пару гадзінаў. Наведаў аднаго з нашых аўтараў Фадзея Шымуковіча. Горад запомніўся паромнай пераправай і сваёй несістэмнай забудовай – вакол, нават у цэнтры, пусткі і адзінкавыя 2-павярховыя камянічкі, якія не складаюць ніякага ансамбля ў забудове. Усё стаіць нібы ўразброс, хаатычна. А маляўнічыя руіны шпіталю на беразе Дзвіны, як быццам, – маўклівыя сведкі нейкай далёкай і вялікай трагедыі...

Так! Ведаю – Дзісна сталася спаленая і разбураная ў апошнюю вайну. Ёсць нямала здымкаў пылаючай Дзісны, якую зафатаграфавалі нямецкія жаўнеры, што тут фарсіравалі Дзвіну.

Дзісна, горад, можна сказаць, "сакральны" для жыхароў цяперашняга Глыбоцкага, Шаркоўшчынскага і часткова Мёрскага і Докшыцкага раёнаў. На працягу стагоддзяў – цэнтр Дзісненскага павету. Сталіца рэгіёну!

А гісторыя? Тут, у Дзісне, на Дзісеншчыне – яна! Адкрый кнігу! Дзе былі паўстанні: Касцюшкі 1794 г., Лістападаўскае 1831-32 гг., Студзенскае 1863-64 гг.?

Аднак слаўная шматвяковая гісторыя Дзісны скончылася ў адзін дзень, а менавіта 18 сакавіка 1921 года, калі была падпісаная Рыжская мірная дамова і Дзісеншчына адышла да 2-й Рэчы Паспалітай.

Але бяда зусім не ў гэтым! Дзісна сталася памежным горадам! Праз Дзвіну – Савецкі Саюз, непрадказальны і каварны сусед! Пераплывуць бальшавікі праз Дзвіну на лодках, а зімой і пешшу па лёдзе – чакай абвяшчэння "Дзісненскай народнай рэспублікі"!

І прыклад яскравы ёсць! Праўда, сённяшніх дзён! Гэта так званыя абвешчаныя расійскімі тэрарыстамі "Данецкая і Луганская народныя рэспублікі"! На баку гэтых "рэспублік" з украінскай арміяй ваюе сёння рэгулярная расійская армія. А нам дураць галаву аб нейкіх "апалчэнцах". Палякі ж былі дальнабачныя! Перанеслі сталіцу павету ў Глыбокае, падалей ад злашчаснай мяжы! Праўда, назву павету, усё ж, захавалі – Дзісненскі.

Перад Вамі здымак даваеннай Дзісны. Калі не называць горад, то, гледзячы на здымак, можа ўзнікнуць меркаванне, што гэта – Вільня, а можа – Віцебск... Ва ўсялякім разе, вялікі губернскі горад.

Гісторыя не мае ўмоўнага ладу, шкада... А такое вялікае жаданне пафантазіраваць! Калі б гэта ўсё захавалася, і не знішчылі! Была б сёння Дзісна "турыстычнай Мекай", нягледзячы на свой пазаштатны статус... Усё гэта цяпер адфарбавалі б, стрэхі накрылі б чырвонай металадахоўкай... Дзясяткі кавярняў, сувенірных крамаў, маленькіх утульных гатэльчыкаў! У дадатак – рыбалка, водны турызм, адпачынак з добрымі пляжамі...

Так! Гэта ўсё фантазія аўтара гэтых радкоў! Навошта фантазіраваць? **Папершае,** у Дзісне, усё ж, не ўсё дарэшты знішчана, нешта і засталося. **Па-другое,** пры добрым маркетынгавым аналізе горада Дзісны можна было б выпрацаваць пэўную канцэпцыю яго развіцця. Напрыклад, адрадзіць даўнія забытыя промыслы, сярод якіх – выраб славутага дзісненскага масла. Пры гэтым сам горад можа стацца цэнтрам водна-спартыўнага турызму, адпачынку, рыбалкі, санаторна-курортнага лячэння. Вось тут можа і паўстаць ідэя аднаўлення старога цэнтра Дзісны. Спатрэбяцца ж для прыезджых гатэлі, дамы адпачынку, кавярні...

Зразумела, не захавалася багата старадаўніх здымкаў Дзісны, чарцяжоў будынкаў, каб усё аднавіць са стоадсоткавай дакладнасцю, але ж можна на месцы былых падмуркаў узвесці новыя сучасныя будынкі, якія будуць імітаваць стыль XIX стагоддзя. Рэальна? Рэальна! Такі прынцып часта выкарыстоўваецца ў нашых суседзяў – Літве, Польшчы, Чэхіі.

Сёння ідэя адраджэння Дзісны, якую выклаў аўтар гэтых радкоў, выглядае мо і прывіднай, але сёння... А заўтра?



**Дзісна, старажытны цэнтр, 1930-я гг.**

# Каб ваш навагодні настрой не быў сапсаваны, набывайце ёлкі ў месцах іх законнага продажу

**Снежань – апошні месяц года. Ён прыносіць шмат клопатаў, асабліва з набліжэннем Навагодніх святаў, час падумаць аб набыцці навагодняй ёлкі.**

■ **А.Г. Абрамчык,** *дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

Як і кожны год, на тэрыторыі раёна будуць арганізаваныя peраднавагоднія ёлачныя базары, на якіх і неабходна набываць ёлкі.

Але, нягледзячы на ўсе намаганні лясгасаў забяспечыць грамадзян навагоднімі ёлкамі па вельмі даступных цэнах, усё яшчэ знаходзяцца жадаючыя займець навагоднюю прыгажуню дарма. Але, як вядома, «бясплатны сыр бывае толькі ў пастцы». Супрацоўнікі міжраённай інспекцыі заклікаюць грамадзян не рабіць неабдуманых учынкаў і не парушаць лясное заканадаўства.

Згодна з Пастановай Міністэрства лясной гаспадаркі Рэспублікі Беларусь ад 20 сакавіка 2001 года №4, пункт 53: «Нарыхтоўка навагодніх ёлак ажыццяўляецца:

■ На спецыяльна створаных плантацыях навагодніх ёлак;

■ пры правядзенні высечак догляду ў лясах, з ліку дрэў, што высякаюцца ў адпаведнасці з лесаводчымі патрабаваннямі;

■ у парадку расчысткі трас, прасек, палос адводу, ліній электраперадач, на лесасеках галоўнага карыстання і суцэльных санітарных высечак, калі на дадзеных лесасеках маладняк не падлягае захаванню».

Грамадзяне самастойна займацца нарыхтоўкай ёлак не маюць права. За незаконную высечку дрэў згодна з арт. 15.22 КоАП Рэспублікі Беларусь прадугледжваецца адміністрацыйная адказнасць ад 5 да 50 базавых велічынь, а на індывідуальных прадпрымальнікаў ад 20 да 200 базавых велічынь, таксама парушальнік аплочвае нанесеную шкоду. Пры перавозцы ёлкі ва ўладальніка пры сабе павінна быць квітанцыя, якая пацвярджае законнасць яе набыцця.

У мэтах прадухілення незаконных высечак ёлак супрацоўнікамі міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету сумесна з работнікамі лясгасаў і міліцыі штодня будуць праводзіцца рэйдавыя мерапрыемствы, у выніку якіх затрыманыя за парушэнні грамадзяне будуць прыцягвацца да адміністрацыйнай адказнасці.

Каб ваш настрой не быў сапсаваны ў навагоднія святы, рэкамендуем набываць ёлкі ў месцах іх законнага продажу, што будуць арганізаваныя ў многіх населеных пунктах раёна, дзе набыць навагоднія прыгажуні можна будзе па даступных коштах.

**Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць па тэлефонах: 8-02156-2-86-70 «тэлефон даверу», мабільныя: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49.**



# Лоўля рыбы на арандаваных вадаёмах

**З надыходам зімы і адкрыццём сезона рыбалоўства з лёду ў Глыбоцкую міжраённую інспекцыю сталі масава паступаць пытанні наконт вадаёмаў, узятых у арэнду, на якіх арганізавана платнае аматарскае рыбалоўства, а таксама аб парадку набыцця білета «Беларускага таварыства паляўнічых і рыбаловаў».**

■ **Аляксей Протас,** *начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

Паведамляем, што квіток «БТПР» можна набыць у будынку раённага таварыства паляўнічых і рыбаловаў па адрасе: г. Глыбокае вул. Палявая, д. 11 а, п.1, працоўны тэлефон: 28696, 28697. Пры наяўнасці квітка «БТПР» рыбаловы аматары могуць ажыццяўляць лоўлю рыбы на 10 кручкоў на любым вадаёме раёна, за выключэннем вадаёмаў, якія знаходзяцца ў арэндзе. Паводле ніжэй пералічанага спісу.

**УВАГА:** Глыбоцкая міжраённая інспекцыя паведамляе аб усіх арандаваных вадаёмах Глыбоцкага раёна, на якіх арганізавана платнае аматарскае рыбалоўства і неабходна набываць пуцёўкі.

**На тэрыторыі Глыбоцкага раёна платнае аматарскае рыбалоўства арганізавана на наступных вадаёмах:**

- **азёры Карпінскае, Бярозаўскае – фермерская гаспадарка «Карпікі»,**
- **возера Крывое** (каля в. Бабруйшчына) **– арандатар ТАА «Сервік»,**
- **возера Чачалі – арандатар ПП «Аграбізнескансалт»,**
- **возера Свядава – арандатар СФГ «Свідава»,**
- **возера Гулідаўскае – арандатар ТАА «Старт» Мінскага раёна,**
- **возера Подавута – арандатар СФГ «Подавуты».**
- **возера Марцэбылінскае – СФГ «Міронччык А.В.»,**
- **возера Вялікая Пліса – ПС ЗАТ «Трэст Прамбуд»**

На ўказаных вадаёмах рыбаловам-аматарам; усім без выключэння, у тым ліку і мясцовым жыхарам, неабходна набываць пуцёўку на платнае аматарскае рыбалоўства, для мясцовых жыхароў – бясплатныя пуцёўкі. У выпадку адсутнасці пуцёўкі або адмовы рыбалова набываць пуцёўку ў арандатара вадаёма, дзеянні грамадзян разглядаецца як адміністрацыйнае правапарушэнне, прадугледжанае ч.І арт. 15.35 Кодэкса Рэспублікі Беларусь «Аб адміністрацыйных правапарушэннях», г.зн., здабыча рыбы без належнага на тое дазволу (пуцёўкі на платнае аматарскае рыбалоўства). Такім чынам, дзеянні ўпаўнаважаных асобаў арандатараў рыбалоўных угоддзяў прызнаюцца законнымі і абавязаныя да выканання рыбаловамі, таму просьба быць узаемна ветлівымі і выконваць Правілы рыбалоўства.

**Набыць пуцёўкі можна:** возера **Чачалі**, база адпачынку «Чачалі» – кругласутачна, азёры **Карпінскае** і **Бярозаўскае** – пры асабістым абыходзе арандатара вадаёмаў, возера **Крывое**, на базе адпачынку – кругласутачна, возера **Свядава** – пост аховы з боку аўтатрасы Глыбокае - Полацк, азёры **Гулідаўскае**, возера **Подавута** пры абыходзе прадстаўнікамі арандатараў. Указанымі вышэй арандатарамі рыбалоўных угоддзяў выкананы неабходны пералік патрабаванняў для арганізацыі платнага аматарскага рыбалоўства, аднак з боку супрацоўнікаў Глыбоцкай міжраённай інспекцыі і іншых кантралявальных органаў патрабаванні да аказваемага пераліку паслуг арандатарамі будзе яшчэ больш жорсткім, бо неабходна развіваць сферу паслуг з боку арандатараў. У 2013 годзе зарыбленне вадаёмаў праведзена на возеры Чачалі - карп, шчупак, азёры Карпінскае і Бярозаўскае - шчупак, карась, белы амур, таўсталобік, возера Подавута - шчупак, карп, сом, у 2014 годзе возера Вялікая Пліса - таўсталобік, шчупак.

Нагадваем усім рыбаловам аматарам пра неабходнасць выканання нормы вылоўлівання рыбы ў суткі на аднаго рыбалова – 5 кг., а таксама дазволенай для вылоўлівання прамысловай меры рыбы, так шчупак дазволены для лоўлі – 40 см. і больш, замер робіцца ад галавы да пачатку хваста. Колькасць жарліц ці кручкоў усталёўвае арандатар рыбалоўных угоддзяў, але не больш за дазволены Правіламі колькасці – 10 штук.

На азёрах **Царкавішча, Малая Пліса** (Заплiссе) лоўля рыбы дазволена толькі на 5 кручкоў, бо вадаём не ўваходзіць у фонд запасу раёна, а знаходзіцца ў арэндзе ў КУМП «Глыбоцкая ПМК меліявадгас».

Па пытаннях арганізацыі платнага аматарскага рыбалоўства Вы можаце звярнуцца да супрацоўнікаў міжрайінспекцыі па ўказаных ніжэй тэлефонах.

На ўсіх астатніх вадаёмах раёна лоўля рыбы дазволена на 10 кручкоў пры наяўнасці квітка рыбалова. За лоўлю рыбы незарэгістраванымі жарліцамі ці 10 кручкамі, без рыбалоўнага квітка прадугледжаны штраф ад 10 да 50 базавых велічынь.

Якіх-небудзь змен, дадаткаў у Правілы рыбалоўства няма, любую інфармацыю, якая Вас цікавіць, можаце атрымаць па тэлефонах міжрайінспекцыі.

Глыбоцкая міжрайінспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету выказвае падзяку грамадзянам за аказваемую дапамогу ў захаванні нашых прыродных багаццяў.

**Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць па тэлефонах Глыбоцкай міжрайінспекцыі: 2-86-70 «гарачая лінія», маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.**

# Як парыбачыць на Браслаўскіх азёрах

**З надыходам стабільнага ледзянога покрыва рыбаловы-аматары масава сталі наведваць вадаёмы нашага раёна, а таксама суседнія раёны, у тым ліку і вадаёмы нацыянальнага парку «Браслаўскія азёры». Практычна з першых дзён зімовай рыбалкі сталі ўзнікаць пытанні з нагоды арэнды вадаёмаў і збірання платы за аматарскае рыбалоўства на арандаваных вадаёмах.**

■ **Аляксей Протас,** *начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

Карыстаючыся чуткамі аб скасаванні дамовы арэнды, шмат хто з рыбаловаў адмаўляецца купляць у арандатараў пуцёўкі на платных вадаёмах, а некаторыя з іх патрабуюць даць ім нават кавы на лёд, персанальны туалет і многае іншае, ствараючы канфліктныя сітуацыі на роўным месцы. Як правіла, толькі пасля ўмяшання работнікаў міжраённай інспекцыі арандатар вырашае канфліктную сітуацыю. І гэта нягледзячы на тое, што жыхары нашага раёна часта наведваюць вадаёмы нацыянальнага парку «Браслаўскія азёры» і ніхто там нават думкі не дапускае рыбачыць без рыбалоўнай пуцёўкі, патрабаваць персанальны туалет альбо асобную стаянку. Усе купляюць пуцёўкі, таму што ў адваротным выпадку інспектары аховы парку выпішуць штраф у памеры ад 10 да 50 базавых велічынь. Рыбаловы-аматары вельмі часта звяртаюцца ў міжраённую інспекцыю за інфармацыяй аб рэжыме рыбалоўства на тэрыторыі НП «Браслаўскія азёры».

**Увага:** На вадаёмах нацыянальнага парку «Браслаўскія азёры» кошт адной пуцёўкі на лоўлю 5 жарліцамі складае 60 тыс. рублёў, – на адну вудачку 25 тыс. рублёў у суткі, на 2 дні – 30 тыс. рублёў, на 3 дні – 40 тыс. рублёў. Лоўля рыбы на 10 жарліц на тэрыторыі нацыянальнага парку дазволена на возеры Высокае, кошт разавай пуцёўкі складае 100 тыс. рублёў. На азёрах Берцы, Плуцінак, Дуброва таксама дазволена лоўля рыбы на 10 жарліц, кошт разавай пуцёўкі складае 75 тыс. рублёў.

Лоўля шчупака забаронена тэрмінам на 3 гады на азёрах Золава, Саванар, Мядзведна.

На ўсіх астатніх вадаёмах НП «Браслаўскія азёры» лоўля рыбы дазволены толькі на 5 жарліц, незалежна ад таго ёсць у Вас білет рыбалова ці не. Усю неабходную інфармацыю аб рэжыме рыбалоўства Вы можаце даведацца па тэлефоне: 8-02153-64581 – дзяжурны нацыянальнага парку (кругласутачна), а таксама на сайце braslavpark.by

# Энерганагляд: у новы год без узгаранняў і траўмаў

**Адзіны апарат, які абараняе чалавека ад паражэння пры дакрананні да токаводных частак, з'яўляецца прылада ахоўнага адключэння (або УЗО). Энерганагляд рэкамендуе ўжываць яе пры падключэнні складанай бытавой тэхнікі, правядзенні капітальнага рамонту кватэр, замене або пракладанні электраправодкі.**

■ **Ішуцін А.Н.**
*інспектар энергаінспекцыі Глыбоцкага МРА «Энерганагляду»*

Гэта выключыць прычыны ўзгарання, электратраўматызму, пашкоджанне вашых бытавых прыбораў.

Напярэдадні навагодніх святаў нагадваем аб некаторых правілах электра- і пажарнай бяспекі:

■ ёлка павінна знаходзіцца на ўстойлівай апоры (падстаўцы, бочцы з пяском і г.д.), яе галінкі – на адлегласці не менш аднаго метра ад сцен і столі;

■ ілюмінацыю варта ўсталёўваць праз паніжальны трансфарматар на нізкі бок не больш за 24 В;

■ пры выкарыстанні асвятляльнай сеткі без паніжальнага трансфарматара на ёлцы могуць прымяняцца гірлянды толькі з паслядоўна ўключанымі лямпачкамі напружаннем да 12 В, магутнасць лямпачак не павінна перавышаць 25 Вт; электрычныя правады, якія сілкуюць лямпачкі ёлачнага асвятлення, павінны быць гнуткімі, з меднымі жыламі; падлучэнне гірлянды – толькі з дапамогай штэпсельнага злучэння;

■ пры ўзнікненні няспраўнасці ў ёлачным асвятленні (нагрэў правадоў, іскрэння і інш.) ілюмінацыя павінна быць адключаная і не выкарыстоўвацца да ліквідацыі непаладак;

■ для ўпрыгожвання ёлкі не варта выкарыстоўваць цэлулоідных і іншых гаручых цацак;

■ калі ёлачныя гірлянды разлічаны на напружанне больш за 24 В, рэкамендуем падлучыць яе праз УЗО.

